УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4Беи)
Д79

**Дубянецкі, Э.**
Д79 Душы маёй няскончаны палёт : кніга паэзіі / Эдуард Дубянецкі. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 124 с.
ISBN 978-985-7007-18-9.

У кнізе паэзіі Эдуарда Дубянецкага — роздум над складанымі праблемамі быцця, трывога і боль за драматычны лёс роднага краю, спадзяванні на асабістае шчасце і мары пра духоўнае ўзвышэнне чалавека. Тут змешчаны творы філасофскай, любоўнай і грамадзянскай лірыкі, вершы, напісаныя ў розных відах і жанрах, а таксама паэтычныя афарызмы і мініяцюры.
У кнігу ўвайшлі вершы 1990–2011 гг.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-18-9**

# Туды, дзе мора сінім аметыстам...



## Зорка лёсу

Яскрава зорка ў небе ззяе,
Сваё святло на горад лье,
Мяне заўсёды сустракае
Яна ўначы, калі я не
Магу заснуць і ў позні час
Выходжу з хаты адзінокі.
Тады ніхто не бачыць нас,
І я, ад спраў зямных далёкі,
Іду паціху, як заўжды,
У неба узнімаю вочы,
Пытаю: «Зорачка, скажы,
Як жыць, куды мне далей крочыць!»
І чую ціхі твой адказ:
«Жывеш ты раз, і на зямлі
Жыцця нялёгкая дарога.
Святла агеньчык запалі
Ў душы,
Ўзыходзіць што да Бога...»

## Душа — бязмежны акіян…

Ў час сну спакойнага душа —
Маўклівыя глыбіні,
Куды не пранікаюць нашы жарсці
І клопаты штодзённага жыцця…

Ў час светлай радасці —
Няспынны бег вясёлых
Хваль-падарожніц
І лагодны і пяшчотны
Брыз акіянскі…

Ў час гневу неадольнага —
Вірлівы й жудасны,
Бясконцы шторм начны,
Што разбівае ўшчэнт
Без спачування
Ду́шы людзей,
Нібыта караблі…

## Вечная спадарожніца

На ўсе мае дарогі і трывогі,
На ўсе памкненні,
Мары-летуценні
Заўжды
Кладзецца
Твой
Ледзь бачны цень...

...Заўжды
Ў душу маю
Змяёю запаўзаеш
І там сабе знаходзіш
Самы ўтульны
І самы дальні
Цёплы закутак...

...Заўжды
Маё ты сэрца апякаеш,
Нібы агонь
Ці вострыі балючы
Імгненны
Электрычны ток...

...Заўжды
Са мной ты —
Спадарожніца мая,
Якая
Не адыходзіць ад мяне

Нат ні на крок,
Якую
І сам не праганяю
Я знарок...

...І вось ўсё гэта ты —
Жахліва-прыцягальная
І ненавісна-любая,
Пякучая,
Салодка-горкая
І неадчэпная мая —
Ад-зі-но-та!..

## Стансы пра Час, каханне і жыццё

Бушуе і пеніцца мора жыцця —
Аб бераг нябыту ўсё б’ецца.
А трэска ў тым моры — то ты, чалавек,
Як выжыць табе ў ім ўдаецца?!.

Высока ўзлятаць закаханым не трэба —
Не вытрымаць ім сонца ззяння.
А тым, хто да неба ляціць, пажадана
Са сталі мець крылы кахання...

Калі Час адніме здароўе і сілы
Ў цябе — не кажы нам «Бывай!».
Глядзі, Час і сам ўжо стары і сагнуты,
Ён — хворы маньяк, дык трывай!..

# Туды, дзе мора сінім аметыстам…

Туды, дзе мора сінім аметыстам
Ляжыць ля ног ўзбярэжных шэрых скал,
І дзе апошні хваль марскіх прычал,
І вецер дзе гуляе ў небе чыстым

І забаўляе хмаркі сваім свістам
Лагодным і ледзь чутным, дзе карал
Блішчыць ў вадзе, бы сонца, і дзе шквал
Шалёны гойсае зрэдчас па камяністым

Сцяжынам горным, — вось туды, туды
Ляціць душа паэта птушкай вольнай,
Шукаючы паўсюль твае сляды,

І ўжо у роспачы крычыць табе — свавольнай:
«Дзе ж ты, каханая, прашу-малю — скажы!»
Маўчанне. І ў душы боль ранай незагойнай...

# Дрэвы

Быць можа, дрэвы — гэта спрадвечныя
Сувязныя
Паміж шматфарбным і шматгучным
Надземным, нашым светам
І царствам маўклівым падземным...

...А можа, дрэвы — гэта рукі нявінна
Забітых і закатаваных людзей, што цягнуцца
ў неба
І ў адчаі нібы звяртаюцца да нас,
Жывых, з просьбай вызваліць іх з вечнага
Падземнага палону і вярнуць ім жыццё,
Свабоду і волю, іх дзяцей, бацькоў....

...А можа, дрэвы — гэта адмысловы музычны
Інструмент нашай зямлі,
Што грае нам музыку зямных глыбінь
І спявае нам шолахам лістоты
Сумныя і вясёлыя песні...

...А можа, дрэвы — гэта
нашы надзейныя ахоўнікі,
Якія атуляюць нас ад жыццёвых бур і пакут
І нячутна нашэптваюць нам
Словы падтрымкі і любові...

...Пытанні, пытанні... Іх мноства,
Ды толькі адказаў няма:

Бо ў ссечаных дрэў не спытаеш,
Жывыя ж — зацята маўчаць...

## Карт-бланш

У чэрствым свеце страчваем мы існасць,
Нібыта дрэвы, што сваю лістоту
Па волі восені губляюць і пяшчоту
Сваю зямлі ўсю аддаюць. І прамяністасць

Апошніх дзён мы бачым пільным вокам,
Што адлюстроўвае ўсе клопаты і мары
Зняверанага людства, на якое чары
Смяротныя наведзены. Нячутным крокам

Ўваходзіць ў сэрца Боль і за сабою Скруху,
Бы паслугачку верную, вядзе,
І неўзабаве нашых душ валадарамі

Яны становяцца і сэрцы ланцугамі
Акручваюць, сціскаюць, і Бядзе
Даюць карт-бланш на руйнаванне Духу...

# Вызначэнні

Птушка вольная лёгкакрылая —
маё нячастае натхненне.
Палёты ў неба ў снах салодкіх —
то маё хобі, захапленне.
Сум самавіты і глыбокі —
то майго сэрца боль, здранцвенне.
Дзівосная маланка-бліскавіца —
то нечаканае імгненне-азарэнне.
Адчайнае спусканне ў падзямелле —
то ноч душы, яе зацьменне.

Халодны дом пусты —
мажліва, то старасці і смерці
набліжэнне...

# Зліццё

Хацеў бы я,
Каб з сонечным святлом
Маё святло душэўнае злілося,
Каб хтось
Ў людскім прамовіў шматгалоссі:
«Глядзіце — дзіва! —
Ўвесь ягоны дом
І вечарам, і нат ўначы заліты
Душэўна-сонечным
Нябачаным святлом!

...Дык піце ж
Вы, мае сябры,
Яго нагбом!..

## А сэрца спявала…

Маўклівымі сцежкамі болю
Душа пралятала.

*А сэрца спявала...*

І ў садзе надзей дзіва-кветка
Увечары звяла.

*А сэрца спявала...*

І восень апошняе лісце
Без жалю зрывала.

*А сэрца спявала...*

І маці ў сваім пустым доме
Сыночка чакала.

*А сэрца*
*Ўначы*
*Памірала...*

# Заходзь…

— Скажы, ветах сумны, ці цяжка табе
На небе вісець усю ноч?
— Ой, цяжка, самотна мне!
— Ну, дык заходзь
У госці ка мне — ў гэту ноч
Не спіцца мне ў доме пустым,
А таму
Мы сядзем за стол, пагамонім
І ў час нашай ціхай начной гаманы
Мо хмары самоты разгонім...

# Малітва

Божа ўсемагутны! Прад Табою
Я схіляю нізка галаву.
З сілаю Тваёю незямною
Па рацэ жыцця ўвесь час плыву...
І няхай мне будзе плыць нялёгка
Ў час, калі дажджы, снягі ідуць.
Вера у Цябе — мая палёгка.
Бо галоўнае для сэрца — гэта чуць
Голас Твой з нябёсаў: «Покуль будзеш
Ўсёй душою вераваць ў мяне,
Ты ніколі і нідзе не зблудзіш,
Цябе гора, пакаранне абміне!»

## Кропка

Я — ўсяго толькі кропка, не болей,
На бязмежнай блакітнай Зямлі.
Я змірыўся даўно з гэтай доляй,
Думкі, нібы я цар, адышлі.

І стаю вось адзіны у полі,
А вакол цішыня і спакой.
Я шчаслівы цяпер як ніколі:
Я — часцінка планеты сваёй!

## Нідзе і паўсюль

Пайсці, упасці у мурог
Духмяны, што пад сонцам белым.
І слухаць ветру ціхі спеў,
І бачыць птушак ў паднябессі...

І стацца птушкаю і сонцам,
І лётаць, нібы матылёк.
А потым растварыцца, быццам
У моры кропелька дажджу...

І адчуваць:
Цябе няма
Нідзе у гэтым свеце Божым,
І ў той жа час ты ёсць паўсюль,
Ў травінцы кожнай, ў кожным дрэве,
У кожнай кветачцы на лузе...

## Басаногі дождж

Неба ўжо цяжарнае аблокамі.
Спее дождж там,
Нібы плод на дрэве.
Жальба чуецца
Ва ўсхваляваным чаек спеве,
Вецер з хвалямі
Гуляе сінявокімі.

...Шчэ імгненне —
І вось мору падарунак
Неба пасылае — летні дождж!

Мора усміхнулася,
Таму што
Ў яго дождж той
Падаў басанож...

## Да дна...

Я — адзін.
І мая Адзінота
Ў гэтым свеце
Таксама адна...

Што ж,
Давай
Кубак болю
Мы вып’ем,
Нібы келіх
Хмяльнога віна,
Ўвесь
Да самага-самага
Дна...

# Мора радасці

Вецер вее ў вершалінах дрэў —
Чую ціхі я і сумны яго спеў...
— Вецер, сябар мой, чаму такі самотны?
— Радасці нідзе не бачыў — то й маркотны.
— Радасць ёсць — хутчэй сюды ляці,
Ўглыб душы маёй, прашу я, зазірні!
Бачыш?
— Бачу! Сум прайшоў мой скора,
Бо ў душы тваёй і сапраўды
Наўсцяж
Радасці
Маленечкае мора!..

# Маўклівы сум...

1

Маўклівы сум — светлы вечар...
Сумная маўклівасць — вечаровы свет...

2

Нечаканая радасць — каханая дзяўчына...
Радасная нечаканка — дзявочае каханне...

3

Страшная катастрофа — страчаны час...
Катастрофны страх — часовая страта...

4

Юначае жаданне — пяшчотны Сусвет...
Жаданае юнацтва — сусветная пяшчота...

5

Смяротная стома — наканаванае жыццё...
Стомленая смерць — жыццёвае наканаванне...

## Крык

Збег з вяршыні гары
Нейчы крык.
Немаўлят напужаўшы у вёсцы,
Паблукаўшы нядоўга у лесе,
Ён стаміўся
І скочыў у рэчку.
І, патрапіўшы ў вір,
Назаўсёды
Дзесь у нетрах рачных
Крык той знік...

## Ментальнасць

Ментальнасць... Гэта што? Энігма духу,
Які ўзлятае часам да нябёс?
Альбо люстэрка нашых душаў руху,
Што вызначае наш жыццёвы лёс?
Як зведаць гэту цуд ўсечалавечы?
Здаецца, на Зямлі ніхто яшчэ не змог
Пазнаць яго глыбінь бязмежных,
Бо, дарэчы, ўсю ісціну тут знае толькі Бог!..

## Не спяць...

Самота мая не спіць — працуе! —
Атручвае крозы ў душы...

І радасць мая не спіць — святкуе! —
Дзень ўцёкаў тырана-нуды...

Самота і радасць не спяць, не спяць
Каторы ўжо дзень і год.

Стаміўся я,
Але
Каб спалі яны, —
Не меў бы я
Столькі ў жыцці
Вясёлых і сумных прыгод...

## Незабыўны сон

Я сплю
Пад цёплай коўдрай цішыні.
Ў маёй душы блакітны сон ўладарыць...
Такі сон,
Пра які
І праз вякі
Душа мая
Й на небе
Будзе марыць...

## Плача лес

Я чую лесу
Плач ўначы.
Абразіў хто яго —
Вятры
Шалёныя
Ці гром
Ў парыве злосці?

Не!
Плача лес той
Спаконвечны
Па сваёй,
Хаця й азмрочанай
Пакутамі, вайной,
Але ж такой
Жаданай маладосці...

## Саната цішыні

Цішыня начная неўпрыкмет
Ціхенька ахутвае мяне...

Зорачка — далёкі ясны свет —
Ціха ў госці да сябе заве...

Ну а я — гаротны — сціпла, ціха
На зямлі жыву сабе, жыву...

Прызвычаіўся даўно да ліха
І ў свой час — таксама вельмі ціха —

Я не ў неба, а ў зямлю сыру
Ад усіх і ад ўсяго
Навек сыду...

## Сонца-кветка

Ніхто не ведае,
Колькі разоў на золку
Ты паднімала
Залацістую галоўку,
І распускалася ты —
Сонца-кветка.
Ты,
Чый кон штодзённы —
Звянуць у начы
Халодных нетрах,
Каб ізноў на золку
Падняць сваю
Прыгожую галоўку
І кветкай непаўторнай
Расцвісці...

## Прыгонны артыст

У нябёсаў
Ёсць адзін
Артыст прыгонны:
І спявае ён,
І танчыць ён
Без стомы...
Самы
Геніяльны
Ён на свеце.
І завуць
Таго артыста —
Вецер.

# Раз’юшаны вандал

Вецер чорны
Ўварваўся ў мой дом
Агрэсіўна-бяздушным
Вандалам.

І сяброўку маю —
Цішыню —
Груба выгнаў.

Прайшоўшы па залах
Майго дома,
Раз’юшаны вецер
Скінуў плашч
Чорны свой...
І тут мне
Падалося,
Што то быў не вецер,
А той,
Бачаны мной
Ў страшным сне,
Нашай жарсці
Шалёна-нястрымнай
Ненасытны, пражэрлівы... воўк.

## Стамлёны матылёк

Стамлёны матылёк
Прысеў
На край дарогі і
Глядзіць здзіўлёна,
Як у розныя бакі
Жалезныя пачвары-равуны
Нясуцца ўдалеч,
Бы ў спякоту да вады
Бягуць жывёлы...

І ўзляцеў тут матылёк,
Але падаўся,
Небарака,
Не ў той бок...

І праз імгненняў некалькі патрапіў
Пачвары пад бязлітасныя колы...

## У палоне жыццёвай мітусні

Беспрытульніца-душа
Заўжды яго цягнула —
Ўдалячынь.

Ну а сэрцайка ўвесь час
Ўзляцець хацела —
Да вяршынь.

...Але мітусня
Не адпускала
Са сваіх —
І няўтульных,
І такіх халодных —
Глыбінь...

## Таўро зайздрасці

Зыркае вачыма злоснымі
Ноч.
На людзей яна злуецца,
Бо
Невыносна бачыць ёй,
Што ўсе
Спяць і бачаць сны,
А яна — не...

Таўро зайздрасці
Блішчыць —
Вы гляньце! —
На яе
Брыдкім і наморшчаным чале...

## Суполка адзінотнікаў самотных

Птушка на дрэве — адна.

Ліст на тым дрэве — адзін.

Я пад тым дрэвам — адзін…

…І ўсе мы —
Адзінотнікі,
І восень
(Таксама адзінокая!)
З’яднала
Усіх нас,
Каб цяпер
Хаця б
Змаглі мы
Адзін аднаму
Ў вочы паглядзець…

…Вось так і ўзнікла
(Дзякуй, дзякуй восень!)
Такая незвычайная
Суполка…

## Спяшаецца...

Душа мая — горны ручай,
Што змейкай бяжыць уніз,
Спяшаецца...
Бяжыць
І ўрэшце ўліваецца
Ў рачулку пад назвай — Адчай...

## Хоча жыць!..

Марозны і шалёны вецер!
Адчапіся
Ад дрэўца кволага —
Прашу цябе, прашу!
Ўжо хопіць гнуць яго
І воўкам над ім выць —
Яно ж, як ты,
Шчэ ой як хоча жыць!..

# Цалую…

Цалую, цалую
Я вусны твае — халодныя!

І бачу я, бачу
Усмешку тваю — лагодную!

Ды толькі цалую
Я толькі у сне, у сне...

Чаму толькі ў сне?
Ды таму што я не...
Не магу дакрануцца
Рукой да цябе.

Чаму не магу?
Ды таму не магу,
Што ты не жанчына,
А... ясная зорка.

## Там, як тут…

Мне надакучыў ўжо Сусвет наш,
А таму —
Пайду,
Гадзіннік усясветны я спыню
(Патрэбен ён нам,
Нібы водмель караблю!)...

Затым
У Паралельны свет
Я дзверы
Паціху,
Асцярожна адчыню...

...Вось,
Адчыніў,
І што убачыў там?
Такі ж,
Як ў нашым свеце,
Там бедлам...

## Чалавек

Душа —
Ледзь бачны след каметы.
А грэх твой цвёрды,
Бы гарэх.
У нетрах суму
Дрэмле смех.
Ты — радасць
І праклён планеты!..

## Час-кат

Імклівы Час
Імкліва нас
З жыцця ўсіх вырывае,
І гэты час — забойца-Час! —
Ніякай літасці да нас
На жаль, мець не жадае...

І Часу-кату я крычу:
«Спыніся, знай жа меру!»
А Час з крывой усмешкаю
Ўзнімае зноў сякеру...

## Душа мая — неба сяброўка

У свеце такім беспрытульным і хісткім,
Дзе гораду Сонца няма,
Ідзе сэрца шляхам сваім прамяністым
І з небам сябруе душа...

## Як пыл...

...Пыл ад ветру
Ўсё вышэй-вышэй ўзлятае,
У паветры круціцца-кружляе
І на дол павольна
Асядае...

Так і нашае жыццё —
Імкнецца-мкнецца
Ўсё вышэй кудысьці — угару.
А затым,
Бы пыл той прыдарожны,
Ападае
На маўкліва-раўнадушную
Зямлю...

# Ужо блізка цунамі кахання



## Маё каханне

Маё каханне — боль, пакута,
Бальзам для сэрца і атрута,
Найлепшая у садзе кветка
І для душы крылатай клетка,
Неўтаймаванай жарсці свята,
Пяшчоты ціхая саната
І рэўнасці ўзаемнай драма,
Адчаю з верай амальгама,
Маланка радасці, натхнення,
Іголка роспачы, сумнення
І хуткага расстання знічка,
Надзей крыштальная крынічка
І шчасця крык ў начной цішы,
Каханне — гэта я і ты!..

# О, як мне хочацца…

...О, як мне хочацца
Ў нябеснай прасторы
Пагушкацца разам з табой
На касмічных арэлях,
Прымацаваных да бліжэйшых зор...

...О, як мне хочацца
Стаць вясновым ветрыкам,
Каб я змог заляцець у тваё аконца і сваёй ціхай
Песняй навеяць табе сон аб нашым каханні...

...О, як мне хочацца
Стаць тою стромкаю ракою,
Што прабягае каля тваёй хаткі,
Каб мець магчымасць штодзённа
Бачыць цябе з ранку да вечара...

...О, як мне хочацца
Пераўтварыць цябе
Ў найпрыгажэйшую кветку на лузе,
А сябе — ў матылька,
Каб кожны дзень любавацца табой...

...О, як мне хочацца
Каб залацістыя сонечныя промні
Растапілі ў нашых душах
Лёд недаверу, рэўнасці і здрады...

...О, як мне хочацца!..
Як хочацца...
Даволі!
Свае ўсе тыя мары, мроі
Я назаўжды (і без адчаю!)
На волю — ў неба — адпускаю...

## Каханая

Каханая! Што ж, дзякую табе
За ўсё, было што ўзімку паміж намі.
Вясной каханне наша са слязамі
Сплыло удалеч, як караблік па вадзе...

Цяпер твой вобраз бачу толькі ў сне
Бяссоннымі і доўгімі начамі...
Той успамін то ў сэрца б’е нажамі,
А то ў душу бальзам пяшчоты лье.

Вось так жыву я зараз — адзінокі!
Ад мітусні жыцця — такі далёкі!
А ты дзе? Ты, мажліва, асалоду

Нібы віно, з каханкам новым п’еш.
Ў сваіх учынках цэніш ты свабоду,
І песню шчасця ўжо не мне пяеш...

## Напаўненне

Напаўняецца свет
Фарбамі і пахамі
Ў час світання...

Так і я напаўняюся
Кактэйлем з усмешак
І радасных слоў
Ў час спаткання...

Ну, і часам напаўняюся,
Бы келіх — да краёў! —
Горычы бальзамам
Ў час расстання...

## Кругазварот пачуццяў

Дзень. Бярозавы гай. — «Ты мяне не чапай!»
Стромкі бераг ракі. — Цёплы дотык рукі.
Вечар. Дом. Мае вершы. — Пацалунак наш
першы.
Ложак. Ноч. Яна. Я. — Шчасця крык. Цішыня.
Цемра. Сон. Час світання. — Зноў мы ў коле
кахання.
Дзень. Сум. Слёзы твае. — «Не чапай ты мяне!..»

# Калі б…

Сцяна адчужэння
Між намі
Стаіць
Ужо колькі гадоў.

Ўзгадай,
На яе пралілася
Ўжо безліч
Халодных дажджоў...

Калі б
Не сустрэліся ў парку
Далёкай
Той восенню мы,

Тады б
Не было і кахання,
І гэткай
Трывалай сцяны...

## Начны званок

Птушкай лёгкакрылай ў мой пакой
Уначы званок ўварваўся — твой!

Вокамгненна праляцеў праз гарады
І сказаў твой ціхі голас: «Назаўжды
Да другога я сыходжу. Выбачай!»

І кароткія гудкі, нібыта выбух,
Быццам стрэл у сэрца... Боль. Адчай.

## Каханне, забітае цемрай

Цемра сэрца здольная знішчыць святло
Кахання...
Цемра сэрца здольная знішчыць святло...
Цемра сэрца здольная знішчыць...
Цемра сэрца здольная...
Цемра сэрца...
Цемра...
Цемра — ў каханні...
Каханне — у цемры...

# Імклівая

О, якая ж ты імклівая!
Скажы,
Да каго ты так спяшаешся,
Куды?

Ледзь паспеў
Назваць цябе,
Як ты —
О, імклівая! —
З вачэй маіх ўжо знікла...

Хто ж імклівая?
І ластаўка ў небе,
І былая любая мая...

## Было свята…

Я — свята-шукальнік,
свята-спявальнік,
свята-знаходнік,
свята-вынаходнік...

*Было:*

Свята вуснаў салодкіх
І стомленых вуснаў —
Пад крылом начы зорнай —
Учора...

*Ёсць:*

Сёння
«свята» самотнага сэрца —
Крык бяссільны, нячутны.
Расстанне.
І душа мая —
Ў цемры пячора...

## Для цябе

Для цябе, для цябе, для цябе
Жыць, тварыць, працаваць і кахаць!
Уяўляць Афрадытаю ў сне,
Радасць, смутак і боль — ўсё спазнаць!

Для цябе, для цябе, для цябе
Марыць, плакаць, смяяцца, не спаць!
Ну а што для мяне, для мяне,
Ты гатова, скажы, што аддаць?!
Чым прывабіць і ахвяраваць,
Назаўжды каб каханаю стаць?!..

...Няма адказу — толькі цішыня:
Дзве выспы ў акіяне — ты і я...

## Адсутнасць

Адсутнасць тваіх слоў,
Дыхання.

Бяссонне — з ночы
І да рання.

І сэрца —
На крыжы расстання...

## Кропкі над «і»

Давай расставім,
Мілая,
Нарэшце,
Ўсе кропкі мы над «і».

Расставім,
І разыдземся спакойна,
Бы ў моры падчас штылю
Караблі.

Расставім
І пачнём жыць паасобку
У змрочным царстве
Адзіноты і тугі...

## Каханне

Яно — канат,
Якім звязаны
Два лёсы, сэрцы два і дзве душы...

...Ну а парвецца той канат —
Яно знікае,
І сэрца кожнае
З надзеяю шукае
Канат другі —
Хоць трошкі больш трывалы...

## Карыда кахання

Удзельнікам стаўшы
Карыды кахання,
Вярнуўся ён стуль
З пікай болю ў грудзях...

...І доўга шчэ будзе
Загойвацца рана,
Але ж суцяшала яго,
Што з гэтай карыды
Жывым ён вярнуўся,
І ў снах,
У пакутлівых снах
Яшчэ не аднойчы
Ён ўбачыў, як ў дзень той
З ахвотай пайшоў на яе...

## Не кляніся, маё сэрца…

Не кляніся, маё сэрца,
Што каханне
Не патрэбна
Больш табе ніколі!

Што ж ты без яго
Рабіці будзеш
Сярод зла, пакут
Зямной юдолі?!

І мне сэрца адказала:
«Не хачу
Зведваць болей
Прысмак палыну
Ад кароткага
Падманнага кахання...»

## Пад восеньскім небам

Пад восеньскім небам —
я чую —
размова
вясёлых вятроў...

Пад восеньскім небам —
я бачу —
белы танец
апалых лістоў...

Пад восеньскім небам —
ты чуеш —
нас кліча
анёлак ў Эдэм.

Пад восеньскім небам —
ты ўбачыш! —
аблокаў
самотных тандэм
плыве самавіта,
і ў дзень той
табе
прашапчу я: «Je t’aime...»

## Нявольныя віноўнікі

Здавалася б,
Чаго нам не хапала
Для шчасця, мая любая,
Ч а г о?!

Аднак каханне наша
Ўсё-ткі звяла,
Бы ў спёку кветка.
Хто ж віноўны?
Х т о?!.

Ў тым вінны я
Ды шчэ адзіны сведка
Сустрэчаў нашых —
Той чароўны гай...

Калі пачуеш
Мае словы,
То прашу я:
Віноўнікаў нявольных
Выбачай!..

# Палёт закаханых

Адзіная ты для мяне на ўсёй планеце.
Прыгожая, як ў ясны дзень шале.
У нашым жорсткім і няўтульным свеце
Мы — птушкі з табой вольныя, мы не
Расстанемся ніколі, бо заўсёды
Калі мы разам, нас перамагчы
Ніхто не зможа, дзеці мы свабоды.
Як зоркі ясныя, ляцім мы уначы
Ўсё далей ад трывог, бяды, пакутаў,
Нас вабяць дальнія, нябесныя агні...
І, вырваўшыся з цяжкіх зямных путаў,
Мы шлях свой скончым разам, ў вышыні!..

# Прабач...

О, мілая! Ты помніш, як калісьці
Шчаслівых, сустракаў нас ўлетку гай.
З тых пор даўно ўжо абляцела лісце,
Каханне хмаркаю сплыло за небакрай...

Маркотна, горка сёння на душы,
І ўжо не грэе веснавое сонца.
У снах мне мроілася: ластаўкаю ты,
Нібы ваду, жарсць выпіла да донца.

Усё было нібы салодкі сон,
Але ён знік туманам ў час світання.
Калі бязлітасным такім да нас быў кон,
То хай ніколі прывіды кахання

Нас не турбуюць болей. Ты ж не плач,
І калі зможаш, то прашу, мяне прабач!..

# Так і не

*Гісторыя аднаго кахання*

— Закахаўся хлопец у прыгожую, бы ружачка,
дзяўчыну?
— Так!

— Закахалася дзяўчына ў хлопца дужага,
як дрэва?
— Так!

— Кветку шчасця ці змаглі знайсці яны
ў жыцці?
— Не!

— А забыць змаглі адзін аднога аж да скону?
— Не і не!..

## Тваё каменнае маўчанне

Тваё каменнае маўчанне
Нарэшце
Скамяніла і мяне...

І вось з тае пары
Мы — камяні халодныя —
Ляжым
На вузкай звілістай
(Няпройдзенай!)
Дарозе
Кахання нашага...

Мінаюць дні і ночы, і гады —
А мы ўсё па-ранейшаму
Ляжым
На той бязлюднае дарозе,
Што паціху
Ўжо зарастае
Забыцця густой травой...

# Рака сноў

Я плаваю ў рэчцы сваіх сумных сноў.
У снах тых вобраз твой ўзнікае зноў і зноў.

Наяве мы з табой не разам ўжо даўно,
І ты далёка — у краіне пякучых халадоў.

Узгадваць соладка і сумна ў час начны
Вачэй пяшчотных бляск, пах чорных валасоў...

Так, ты сышла, аднак дагэтуль чую гук
Тваіх даверлівых, кранальна-ціхіх слоў.

І сэнсу папракаць кагосьці цяпер ужо няма —
Бо мы не вытрымалі рэўнасці шалёных
скразнякоў

...Але я веру-спадзяюся, што калісьці мая душа
Пакіне вежу роспачы і ўвойдзе ў палац кахання
зноў...

# Раманс аб страчаным каханні

Каму
Ты ў цемры падасі
Свой каганец надзеі?!

Каму
Ты скажаш: «Нашы жарсці —
Гарачыя завеі»?

Каму
Дазволіш адчыніць
Ты дзверцу свайго сэрца?

Каму
Сыграеш на раялі
Ў начы халоднай скерца?

...Каму? Каму?
А ў рэшце рэшт —
Гадаць навошта мне?

Дасі
Ты ключ ад дзверцы той
Камусьці —
Ды не мне...

# Твой позірк

Для мяне
Як гаючыя зёлкі
Часам
Позірк
З усмешкаю
Твой...

А зрэдчас ён
Нібыта гаркавы
І халодны
Атрутны напой —
Гэты
З прыкрасцю злой
Позірк твой...

## Рэўнасць

Я чую тваіх крокаў
Ціхі гук.
Ідзеш па вулцы ты сягоння —
«Тук-тук-тук».

Куды ж вядзе цябе
Твой праменад?
Мо да каханка новага
(Ў парк? ў сад?)...

А мо у госці
Да альфонса сквап-
нага? І вось з вачэй маіх
Ліюцца і ліюцца
Няспынна слёзы
«Кап-кап-кап-кап-кап»...

## Таямніца дзявочай душы

Хацеў зазірнуць ў тваю душу, але
Рашуча сказала ты: «Любы мой, не!
Бо воблачкам белым каханне міне,
Калі ты убачыш, што там ў ёй — на дне...»

## У абдымках ночы

У адбымках ночы
Я — такі ахвочы! —
Да тугі і суму —
Зноў адзін, адзін...

...У абдымках ночы —
Стан я твой дзявочы
Абаўю рукамі
І пяшчоту
Буду піць
(Хоць запар!)
Шмат гадзін...

У абдымках ночы
Твае ясны вочы
Дораць асалоду,
Нібы
Смак ажын...

...Але пройдзе ноч —
Ты сыдзеш — буду я
Зноў чакаць
Тваіх
Начных абдымкаў —
Пасля доўгага
Бязрадаснага дня...

...У адбымках ночы
Я — такі ахвочы! —

Да тугі і суму —
Зноў адзін, адзін...

## Чарговая ахвяра

Я зазірнуў
Ў вачэй тваіх калодзеж.
І ў жаху мовіў:
«О, якая глыбіня!»
А ты
З усмешкаю нявіннай мне сказала,
Што легіён каханкаў патануў там,
І што чарговая ахвяра — гэта я...

# Шчаслівыя ад пацалункаў

Неба.
Сонца.
Пацалунак.

Неба пацалунак —
мне.
А табе —
Сонца пацалунак...

І вось мы —
Ўжо амаль шчаслівыя
Ад гэтых
Сонечна-нябесных
Пацалункаў...

«Любы,
Мы шчаслівыя амаль —
Дык давай
Пацалуемся й мы самі,
І няхай
Нам зайздроснікі
Гаворацць: “Вось яны,
Пацалуннікі, стаяць
Між гаманы
Вулічнай.
Глядзіце вы на іх,
Поўнасцю шчаслівых
Ад сваіх

Пацалункаў
Страсных і гарачых!..”»

## Узыходжанне

Твае грудзі...
Сёння ўначы
Зноў моўчкі кінуся
З гары на невялічкай выспе
Ў драбнюткае мора асалоды
І вуснамі вып’ю
Яго да донца...
А потым
Марудна даплыву
Да суседняга вострава
І пачну ўзыходжанне
На тамтэйшую горку...
І нарэшце
Ўзбяруся
На маленькі маячок —
Твае вострыя смочкі...

## У пячоры кахання

Зайшоў я ў пячору кахання —
І ў ёй я застаўся (да рання!).
І так спадабалася мне там —
Гатовы цяпер з цэлым светам
Пайсці на абмен: дом ля мора
Бярыце вы мой — мне не трэба
Ні неба, ні сонца, ні хлеба,
Бо лепш за ўсё — тая пячора!

## Цень

О, любая,
Так хочацца мне быць
З табою побач,
Быць паўсюдна і заўжды!

Відаць,
Адно ёсць
Толькі выйсце у мяне —
Паспрабаваць
(Наяве, а не ў сне!)
Тваім стаць
Ўсюдыісным... ц-е-н-е-м.

## Цунамі кахання

Калі захлісне нас цунамі
Кахання — то што будзе з намі?!

Мажліва,
Асобныя самі
Захочуць загінуць ў цунамі...

А тыя,
Хто жыць застануцца,
Начамі
Сніць доўга яшчэ
Будуць тое цунамі...

# Не чутны спеў Арфея на зямлі...



## Наш свет

Ты пытаеш мяне:
«Ну, а свет наш які?
Ці змяніўся ён ў нечым
За годы, вякі?»

Адкажу я табе:
«Свет амаль не змяніўся.
Толькі, можа, са злом
Чалавечым змірыўся
І ад войнаў, пакутаў
Ўжо трошкі стаміўся...
Ну а ўвогуле, свет,
Як раней, той жа самы
І далёка яму, як заўжды,
Да нірваны...»

## Шчасце і няшчасце

Шчасце сустракае нас заўсёды нечакана,
выпадкова,
Аднак жа на сваіх арэлях нас гойдае абавязкова.
Шчасце — крок да асалоды і пяшчоты слова,
Слодыч творчага натхнення і кахання мова...

...А няшчасце што? Знянацку ўсіх нас сустракае
І адразу ў вір пакутаў, роспачы кідае.
Так, няшчасце — гэта бездань, хто ў яе трапляе,
Той або ў яе абдымках хутка памірае,
Або той, хто моцны духам, ўсё-ткі выжывае
І на ўзлёт духоўны шанец (хоць маленькі!) мае...

## Арфей не вернецца ніколі…

Калі аціхне ўрэшце спеў Арфея,
Свет скоціцца у бездань нематы.
Не дапаможа нам ніхто — ні Бог, ні фея
Мілосці, ні анёл, з якім на «ты»

Мы перайшлі ў стасунках паўсядзённых.
Ўсе адвярнуліся ад нас. І ўжо няма
Пяшчоты ў душах. З кола спраў будзённых
Яшчэ спрабуем вырвацца — дарма...

Дарма, бо над жытлом нашым кружляе
Крумкач бяды, а ўнізе, на зямлі
Падчас цунамі горад ўвесь знікае
І з гор ляцяць, бы стрэлы, камяні...

Міязмы рабства разліліся у паветры.
Ў маўчанні жаласным застылі людзі, нетры,
Жывёлы, птушкі... І ў адсутнасці Дэметры
Ляжаць паўсюдна неўрадлівыя палеткі,
Як запусцення жудаснага сведкі...

І крыкнем мы ў адчаі: «О, Арфей,
Вярніся!» Не, не вернецца ніколі...

## Агонія і гармонія

Ў маёй душы, ў душы маёй —
Прытулак ёсць для кволенькай гармоніі...

А наш народ, пакутнік наш
Згарае ў чорным полымі агоніі...

...Навошта ж мне гармонія душы,
Калі вакол — агонь і дым, і хмары
Адчаю, ну а побач — ні душы?!..

## Беларуская планіда

О, Беларусь, — ты зорка шматпакутная,
Бо столькі ж зелля ты ўжо выпіла атрутнага,
Прыгатаванага з нянавісці, маны
(Яго далі табе вар'яты-ўладары!)...

Так, табе цяжка, зорачка, і крыўдна,
І плачаш ад бяссілля ты ўначы.

Але ж ты вер, што калісь замест зелля
Нап'ешся ўдосталь ты жывой вады,
Адужаеш, ўсміхнешся,
Ну а покуль
Трымайся, зорачка,
Не падай і свяці!..

# Летаргія

Мы ўсе знаходзімся у доўгім, цяжкім сне,
Які нас шмат гадоў не пакідае.
Ён нас бы ў кіпцюрах сваіх трымае,
І з тых абдымкаў сваіх жорсткіх не дае
Нікому вырвацца. І плечы нам згінае
Ў тых страшным сне Вялікі Жах, які
Атручвае жыццё нам і наяве,
Які ўладарыць ў кожнай думцы, справе
І здольны ў вязніцы наш дух трымаць вякі...

Дык здарылася што, о людзі, з намі,
Чаму не ў стане пастаяць мы за сябе?!
Няўжо, як зомбі, будзем паслухмяна
Жыццё праводзіць ў летаргічным сне...

## Народу — пра свабоду

Свабода —
Птушка дзёрзкая,
Яе
Трымаць трэ
Моцна у сваёй руцэ.

Ну а калі
Свабоду-птушку
Не ўтрымаем,
То вокамгненна
Узляціць яна высока
І знікне
Назаўжды
За небакраем...

## Папярэджвае нас веча продкаў

Стой!
Спыніся ты, сучасны чалавеча!
Паглядзі, гудзе (вось дзіва!) веча —
Веча нашых продкаў,
На якім
Яны вынесці збіраюцца прысуд —
Папярэджанне, што нам усім kaput
Будзе вельмі скора,
Калі мы
Ў нашым краі
Не разбурым ўсе злавесныя
Чорныя трывалыя высокія
Вежы зла, нянавісці, маны...

# Падае гмах

Жудасць... Жах... Ж-а-х!
Рушыцца-падае Гмах —
Гмах нашых мар і надзей,
Трывог,
Дум,
Шалёных страсцей..

— А хто ж разбурыў гэты Гмах —
Мо чорны бязлітасны Птах?

— Ды не! Злую справу
Зрабілі Нянавісці бура
І наш —
Маўкліва-учэпісты Страх...

## Храм шчасця

Зорка!
Народу, кожнаму роду —
Дапамажы!..

Шлях нам да сонца,
Да волюшкі светлай —
Пакажы!..

Зорка!
Спусціся ты з неба,
Каб злыдняў ўсіх —
Пакараць!..

Дай жа нам сілы
І моцы Храм шчасця —
Збу-да-ваць!..

## Апошнія сны дрэў, або Пачатак вайны

*Ноч...*

І сняцца сны тым дрэвам
Пра той час
(Далёкі ўжо),
Калі яны —
Тады шчэ маладыя —
Пад шатамі заўжды
Хавалі птушак
І слухалі, і слухалі
Штодня
Пасажы ціхія,
Ў якіх ў адно
Зліваліся
Птушыны спеў
І дзетак маленькіх
Ручаінкі-галасы...

*Світанне...*

І сны перарваліся,
Зніклі
І сталі апошнімі,
Бо
У дзень той
Убачылі дрэвы
Крывавы твар
Звера — вайны...

## Даць нырца…

Хутчэй, хутчэй адчай адолець,
Маркоту, цемру духу!
І разагнаць ўсе хмары хмары
Пакутаў і нядолі!
Таму сказаць вам сёння, людцы,
Хачу — не! — ўсё-ткі мушу:
«Хутчэй жа ўсе нырца давайце
У мора волі волі!»

## Бэз і без…

Цвіце на вуліцы
Пахучы бэз...
А мы жывём, як і раней,
Ўсе без
Свабоды. І яшчэ нам доўга
Ўсім відаць
Той волі-волюшкі салодкай
Не спазнаць...

## Дажыліся…

— Людцы, зразумейце!
Шчэ ёсць час:
Сённяшняя
Наша паняверка —
Гэта ў пекла
Прыадчыненыя дзверцы...

Ці ж пра гэта марыў
Кожны з нас?!.

Цішыня.
Няма адказу.
Наступае
Мо апошняя гадзіна
Перад сконам
Нашым
На знявечанай
Зямлі...
І здалёк — у пекле —
Нас вітае
Д’ябал чорны...

Ой жа, людцы,
Ой жа, людцы!
Дажыліся,
Дажыліся,
Дажылі...
Дажы...
Жылі...

# Запусценне

Злыя злыя вятры над зямлёй.
Чорны чорны каршун над вадой.
І ціхі дзіцячы плач льецца ракой
За шэраю тоўстай бальнічнай сцяной...
А там, за высокаю цёмнай гарой,
Ёсць вёска — душы ў ёй жывой ні адной.
Здаецца, усё там спавіта тугой
Запусцення, тугой ледзяной.
А вецер самотны у вёсачцы той —
Ён там гаспадарыць парою начной.
Там храм, акрылёны калісьці імшой
Святою, цяпер зарастае травой...

За што гэта ўсё?!
О, за што, Божа мой?!.

## Здань ведае…

Свет наш
Хутка крочыць ў бе-здань.
І глядзіць на нас
З нябёсаў здань.
Цёмнай ноччу
Моўчкі лётае яна
З радасцю на твары…
Бо яна,
Мабыць, ведае,
Што там,
За паваротам,
Нашая апошняя мяжа…

Мы ж не ведаем нічога —
І здаецца,
Wszystko jedno нам —
Ці шчасце, ці бяда…

## Зруйнаваная прастора Духу

Зруйнаваная
Прастора Духу...

Я цішыню яе бяздушша
Не парушу

І ўся яна ў змярцвеласці смузе...
І выйсця ўжо няма, відаць, нідзе...

Дай крылы, Божа,
Вырвацца з яе!

Сваіх
Мне сілаў
Болей
Не стае...

## Мора гора

Мора мора мора...
Гора гора гора...
Мора гора мора гора...
Мора народнага гора...

— Калі ж прыйдзе чаканае шчасце?!

— Супакойся, браток, шчэ не скора —
Калі высахне ўсё мора гора...

# Сляпыя

Да краю бездані
Мы падыходзім
Ўсё бліжэй...
Ідзём туды мы як сляпыя,
Не бачым і не ведаем — куды...
І хтосьці рухаецца ўперад шпарка,
А хтосьці — больш марудна і павольна.
І кожны лічыць ў глыбіні сваёй душы,
Што на яго баку фартуна будзе,
А лёсу лінія — амаль прамой.
...А на другім канцы грахоўнага жыцця
Ахутана ўсё цішынёй, спакоем вечным,
І там даўно нас з нецярплівасцю чакае
Бяздонне чорнае і дзевяць змрочных,
Бязлітасных і страшных колаў пекла...

## Я адчуваю...

Я адчуваю —
Свет наш ціха тоне
У багне зла, нянавісці, хлусні...
Я адчуваю —
Як шчыгрынавая скура,
Сціскаецца сумленне на зямлі...
Я адчуваю —
Ў сэрцы пранікае
Яд бруднай пошласці-змяі...

...Я адчуваю,
Што ўжо вельмі блізка
Ад нас усіх вялікая бяда.
Але мае ўсе
Прадчуванні не патрэбны
Нікому ў гэтым свеце...

А шкада...

## Чаму?!.

Чаму не глядзім мы на зоркі,
На ў небе аблокі?
Чаму?!
Таму, што не волю абралі
Для духу свайго, а турму...
...Вось так ўсе і ходзім, да долу
Схіліўшы сваю галаву.

## Доўгачаканы асенізатар

З маны і здрады
Назапашанае смецце
Так лёгка выдзьме
І развее у паветры
Асенізатар
Нашых душаў ветлы —
Свабоды ўсюдыісны
Свежы вецер...

# Злавесны цень, або Спроба чыстага спявання

Вясною песня так лёгка так лёгка
Ля-ля-ля-ляціць.
А капеж тады звонка так звонка
Звi-звi-звi-звiнiць...

Ўся трасецца ад смеху шалёнага
Да-да-да-дача....
Ну а побач у цёмным у лесе хтось так вусцішна
Пла-пла-пла-плача...

Як жа сёння нам ўсiм не хапае спагады i
Бра-бра-бра-брацтва!..
I павольна на нас напаўзае цень злавесны
Ва-ва-ва-вар’яцтва...

# Нерамагчы страх…

Цёмны страх да нас
Прыходзіць па начах.
Страх той, бы жахлівы
Чорны птах,
Залятае глухой ноччу
Ў нашы хаты,
Бярэ ў рабства нашы душы
(Цмок пракляты!).

Ад яго выратаванне ёсць
Адно —
Быць ўсім разам
І той страх
(Такі трывалы!)
Талакою
Выгнаць у… вакно.

## Куды ж ідзём?

Гора паўстала прад намі сцяной —
Мы крочым наперад усёй грамадой.

Бясконца крумкач ўсё кружляе над намі —
Ідзём мы наперад палямі, лясамі...

Куды мы ідзём? Ды не ведаем самі.

А дэман уладна нас кліча: «Сюды —
Ў мой край змрочна-ціхі ідзіце смялей,
Сустрэну вас тут як чаканых гасцей
І дам вам — ад шчырага сэрца —
Па кубачку смачнай... атрутнай вады.

## Двубой

Глядзі, глядзі!
Святло і цемра
выходзяць на двубой!
Ой!..

...Паранены яны смяротна.
І нібыта
міраж ў пустэльні
мёртвай,
ўжо знікае
імкліва
свет наш ачмурэлы...
Ой!..

## Маленькая ода сумленню

Ў адных сумленне
Бы маланка —
Блісне і хуценька знікае.
Ў другіх яно
Нібы каханка —
Каля сябе заўжды трымае
І боль нам часам прычыняе...

...Няхай нідзе
Ніколі не знікае
Выратавальнае Сумленне.
І хто мае
Яго у наш
(На жаль, звярыны!) час,
Таму «Vivat!» мы крыкнем —
Гэтым магіканам
Апошнім —
Нашым супляменнікам
І разам з тым
Сум-лен-нікам!..

## Канцавы прыпынак

Куды свет коціцца?
Ён з’ехаў з глузду?
Можа быць...
Хтось суцяшае:
«Ўсё як мае быць —
Ляціць у правільным кірунку
Наш цягнік...»

Але ж мне падаецца,
Не ў той бок
Мы едзем ў цягніку жыцця,
І вось —
Імкліва набліжаецца прыпынак
Наш канцавы
Пад назваю «Н Я Б Ы Т»...

# Ад а да я

## *Вершы ў розных жанрах і відах*



### Цяжкія часіны

*Актава*

Часіны вельмі цяжкія насталі:
Краіна ўжо амаль загразла ў брудзе,
Не здзейснілася тое, што чакалі
Ўсе людзі. Думкі іх аб цудзе
Дарэмныя. І гледзячы у далі,
Спытаю я: «Што заўтра з намі будзе?»
І мне адкажа нехта сумна, ціха:
«Напэўна, не пазбегнеце Вы ліха...»

## Спыніць пір падчас чумы…

*Александрыйскі верш*

Што бачу я наўкол? Хлусня, нянавісць,
подласць
Піруюць ў час чумы, а праўда, вернасць,
годнасць
Сядзяць у вязніцы ужо каторы год,
Святла не бачачы, ў пакутах ад згрызот
Душэўных, жудасных, што вырвацца на волю
Няма ні сіл, ні шанцаў. Нам ўсім кубак болю
Шчэ выпіць прыйдзецца да дна, а потым зноў
Наіўна верыць ў тое, што ад вязніцы муроў
Калісьці, можа быць, не застанецца ўжо нічога,
І выйдуць вязні тыя на свабоду, і дарога
Адкрыецца прад імі ў свет шырокі. Ну а мы,
Узяўшы вязняў тых пакутных у сябры,
Мажліва, спынім гнюсны пір падчас чумы...

## Доля

*Акраверш*

**Д**абрабыт нам дабрыню нярэдка замяшчае.
**О**, як бязвер’е хутчэй вытрэсці з душы?!
**Л**янота сэрца спараджае абыякавасць, а Ты
**Я**к тая хмарка, што плыве у паднябессі і знікае...

## Нявінныя ахвяры

*Брахікалан*

Сад.
Шум
Дрэў.

Дом.
Смех.
Спеў.

Грук.
Спеў
Знік.

Шок.
Страх.
Крык.

Дзень
Згас.
Лес.

Тут
Ціш
Спрэс.

Стогн.
Жах.
Змрок.

Стрэл.
Злы
Рок...

## «Без цябе...»

*Версэт*

Аднойчы падчас сустрэчы са сваімі сябрамі і добрымі знаёмымі я папрасіў іх напісаць на паперцы, якія асацыяцыі і думкі выклікае ў іх фраза «Без цябе...». Спачатку ўсе нібыта з ахвотаю ўзяліся за працу, аднак трошкі пазней асобныя з прысутных адмовіліся выканаць маю просьбу і вярнулі мне абсалютна чыстыя аркушы паперы. Астатнія выканалі заданне, і вось што яны напісалі.

*Адзін з іх напісаў:*

«Мне здаецца, што ўначы нехта вырваў
маё сэрца і схаваў яго дзесьці ў патаемным падземным сховішчы,
без цябе,
мая матуля!»

*Другі напісаў:*

«Кожны дзень я пераглядаю нашыя старыя фотаздымкі — гэтыя маўклівыя сведкі нашага тагачаснага шчасця —
без цябе,
мая каханая!»

*І напісаў трэці:*

«Я ніколі не адчуваю сябе цэласным,
напоўненым ўсімі фарбамі і пахамі жыцця; я —
нібы разбітае люстэрка
без цябе,
мой сябра!»
*А яшчэ адзін напісаў:*
«Мне ўяўляецца, што я страчваю повязь з небам
і не атрымліваю ніякай энергетычнай падпіткі
ад сонца
без цябе,
мой Бог!»

## Зоркі

*Вершаказ*

Звычайна зоркі вельмі пільна і зорка ўглядваюцца ў глыбіні Сусвету, бо трэба ж добра ведаць, што іх чакае наперадзе і ці не ляціць насустрач хто-небудзь з іхніх ворагаў. А ворагі у зорак ёсць заўсёды — і самымі небяспечнымі з іх з’яўляюцца вялікія каметы, якія пастаянна спрабуюць нанесці хоць якую шкоду зоркам. Зоркі часам зыркаюць сваімі злымі ці добрымі вачыма, калі ў сваім няспынным палёце сустракаюць іншыя зоркі, планеты. Падчас сустрэчы з імі зоркі вітаюцца, працягваючы ім свае бліскучыя рукі-промні і гаворачы пры гэтым: «Прывітанне, спадары касмічныя вандроўнікі!».

Зоркі заўжды — і ў ясны, і ў золкі дзень — пастаянна турбуюцца пра тых сваіх бацькоў, дзяцей, далёкіх сваякоў, сяброў, якія ў розныя часіны разляцеліся ў розныя куткі Сусвету — хто ў іншую галактыку разам са сваёй (-ім) абраннікам (-цай), хто проста ў вандроўку па бяскрайніх нябесных прасторах, а хто й на месца свайго апошняга спачыну...

Увогуле, зоркі — гэты не нейкія страшэнныя, пачварныя оркі, а наадварот, нябесныя прыгажуні — можна нават з поўным на тое правам называць іх «Міс (а мо Місіс?!) Неба». Хаця, канечне, бываюць (як і сярод людзей) і не вельмі прывабныя зоркі, але гэта хутчэй выключэнне з агульнага правіла...

І як жа хораша зорнай ноччу глядзець у неабсяжнае і недасяжнае неба, з якога нам падміргваюць і ўсміхаюцца тамтэйшыя абарыгенкі — зоркі!..

## Не здолелі...

*Віралэ*

Як калісьці, ізноў паміж намі
Сцяна —
Недавер ў ёй ляжыць камянямі...

Не дае спаць спакойна начамі
Мана,
Што у сэрца ўвайшла нам нажамі...

Адчужэння ўжо змыта дажджамі
Яна —
Жарсць, што сцішыць не здолелі самі...

## Іду да цябе

*Газель*

Я да цябе праз бураломы гора — іду!
Праз прымхаў незлічоных мора — іду!

Чакаеш дзесьці ты мяне, я спадзяюся.
Пакуль ты для мяне ў жыцці апора — іду!

Ўсе думкі да цябе імкнуцца — заўжды.
Пакуль ноч небыцця не скора — іду!

Няхай ляцяць падзякі словы — табе.
Пакуль жыве ў душы маёй пакора — іду!

Твой светлы лік наяве бачу, ў снах.
Хай плачам поўніцца прастора — іду!

## Свабода

*Гашма*

Краіны ёсць, дзе шчэ і сёння балююць
подласць, здрада,
Нянавісць, зло. Каб іх адолець, патрэбна што?
Свабода!..
І ёсць краіны, дзе не Праўда, а грошы і пасада
Рашаюць ўсё. Маны пухліну што знішчыць
ўшчэнт? Свабода!..

Пануе й сёння цемра ў душах шчэ шмат якіх
людзей,
Для іх галоўнае — не думаць і есці як смачней.
Яны ж і скоцяцца у прорву бяздушша
найхутчэй.
Што ж запаліць святла агеньчык паможа нам?
Свабода!..

Адчай і тлум трымае многіх у бязволля
кіпцюрах,
Якія ў горла ўжо ўпіліся, і душыць людцаў жах.
З’ядае душы, лёсы трушчыць Малох крывавы —
Страх.
Што ж лёсу утрымаць стырно нам паможа ўсім?
Свабода!..

## Палёт маёй душы

*Касыда*

Стамілася мая душа жыць ў цемры сутарэння,
Схацелася маёй душы хутчэйшага збавення —

Збавення ад згрызот жыцця, ад страты ў сэрцы
веры.
Схацелася знайсці святло замглёнага натхнення.

І вось нарэшце і мая душа праз столькі год
Спазнала горычы адсутнасць і радасць
вызвалення.

Ляціць, ляціць мая душа у бездані нябёс,
Ляцець так цяжка праз аблокі пагарды
і здранцвення.

І на зыходзе ужо сілы, шалёныя вятры
Балюча б'юць мяне у твар — бясстрасна,
без сумнення.

Здаецца, што і там, ў нябёсах,
няма выратавання,
Што набліжаецца няўхільна жахлівы час
змярцвення.

Як стала холадна і цёмна ў надземнае прасторы!
Мне падалося, нават зоркі ўжо на мяжы
знікнення.

...Але ў той момант, калі выйсця, здавалася,
няма, —
Святла успышка. І — о, дзіва! — ў душы міг
азарэння!..

І акіян нябесны раптам напоўніўся ўвесь
ззяннем,
Я раствараюся ў ім... Шчасце! Бязважкасць!
Прасвятленне!

## Бура гора

*Кыта*

Гляджу, схаваўся ты у хаце баязліва
Ў той момант, калі бура гора наляцела.
Наіўны! Ад той буры не схавацца
Табе нідзе, дык стрэнь яе ты смела...

## Зляцеў...

*Лімэрык*

Чыноўнік высокі з Канады
Любому быў хабару рады:
Ён браў і цукеркі,
І грошы, талеркі,
І ўрэшце... зляцеў ён з пасады.

## Сум мой…

*Ліпаграматычны верш*

— Сум мой самавіты, сіні —
Спі, спі, спі...
Сны аб спаконвечным шчасці —
Сні, сні, сні...
Будзь са мною, сум мой светлы, —
Сонцам будзь...
Сном спавіць мяне салодкім —
Не забудзь...

— Не хвалюйся, свет мой ясны,
Хутка ўсе
Ўжо заснуць сваім апошнім
Вечным сном...

## Тлум, сум і самум

*Лэ*

Плывуць над горадам, нібы армады караблёў,
аблокі.
З двароў даносіцца ледзь чутны і такі далёкі
Тлум.

Хаджу па вуліцах вячэрніх я беспрытульны,
адзінокі,
І ў маё сэрца зноў ўваходзіць такі трывалы
і глыбокі
Сум...

І мне здалося, што Адчаю пачуў я ўпэўненыя
крокі,
І ўбачыў, што смяротнай хмарай ляціць
з-за дальняе затокі
Самум...

## Магутнасць сноў...

*Пантарым*

...магутнасць сноў бяздонне дум
адсутнасць слоў бяссонне сум
крок у маленства адзінота
і змрок шаленства і пяшчота...

# Мана

*Рандо*

Мана
Між намі як высокая сцяна
Паўстала, агарнуўшы душы сумам.
А часам мне здаецца, што яна
Нам нішчыць сэрцы ўсюдыісным тлумам,
І мы тады не бачым ні цяпла,
Ні радасці навокал; нашым думам
Так не хапае яснасці, святла.
І мроіцца: накрыла свет сваім вэлюмам
Мана...

Ў той змрочны час, калі ўначы пярунам
Асвеціцца ўсё неба, мы ўсе сна
Не будзем мець, бо набліжаецца самумам
Мана...

## Змаганне

*Рандэль*

Ў маёй душы ідзе змаганне —
Дакладней, жорсткая вайна.
Віной ўсяму мая адна
Жарсць — як пякучае жаданне

Прадухіліць з Табой расстанне,
Быць побач з ранку да цямна...
Ў маёй душы ідзе змаганне —
Дакладней, жорсткая вайна...

Не, поле бітвы не каханне!
А хто ж супернікі? Нуда
І радасць — мне ж тут не да сна.
За Шчасце бой, не за каханне.
Ў маёй душы ідзе змаганне...

## Не згубі...

*Рубаі*

О, не згубі сваёй душы
Ў віхуры зла, сярод маны!
А вытрываеш ўсе напасці,
І вось ён — пік жыцця гары...

## Наіўны

*Рытурнэль*

Хацеў
Я на шляхах сваёй бясконцай адзіноты
Сустрэць каханне. І, здалося, вось — сустрэў...

Казаў
Табе я шчырыя, даверлівыя словы,
А потым страсна, па-вар'яцку пакахаў.

Цяпло
Душы я дараваў табе нястомна,
Ды атрымаў адно — кахання тло...

## Бязвыхаднасць

*Рэха-верш*

На дно душы нас цягне грэх —
Эх-эх!..

Жыве у думках, дзеях страх —
Ах-ах!..

У цемры лётае наш дух —
Ух-ух!..

Відаць, пакінуў нас Пан Бог —
Ох! Ох!..

# І я пайшоў да адзіноты кайданоў…

*Санет*

Пад чорным тым крылом начы
Скрозь буры, дождж і гром суровы
Ішоў я да цябе і быў гатовы,
Здавалася б, на ўсё… А ветраў галасы

Услед мне прамаўлялі ціха: «Ты
Патрапіш ў пастку ў час таемных ловаў
На тваю душу, а пяшчоты словы
Ты не пачуеш больш ніколі!» З нематы

Стогн вырваўся і узляцеў да неба,
І знік там, не пакінуўшы слядоў.
Здалося мне, пачуў я голас Феба —

Ахоўніка святла — ён мне сказаў: «Дамоў
Ісці табе, каб не пакутваць, трэба!»
І я пайшоў — да адзіноты кайданоў...

## Напярэдадні апакаліпсісу

*Сіцыліяна*

Дрэвы над намі рукі змыкалі,
Ляцелі услед вятры крумкачамі,
І неба начное над міг перунамі
Раскрышвалася. І ў цішы паўставалі
Маўклівыя прывіды, а пад нагамі
Здавалася, чорныя травы палалі
Халоднымі агнём... І нарэшце са сталі
Бліснуў востры меч Божай кары над намі...

## Туга

*Танка*

Месяц на небе —
Нібы вока Сусвету...
Гляджу на месяц —
Бачу адлюстраванне
Сваёй тугі...

## Снежань. Сонца. Сцюдзёны спакой…

*Таўтаграма*

Снежань. Сонца. Сцюдзёны спакой...

Светлы сум. Сонны сад. Снег сцяной...

Сарамлівасць сняжынак. Спатканне...

Свята сцішанай страсці. Світанне...

Стома сэрц... Сцюжа слоў... Спачуванне...

## Холадна…

*Трыялет*

Як холадна і цёмна за вакном!
А ў доме валадарыць адзінота.
Ў душы маёй не сонейка, а слота.
Як холадна і цёмна за вакном!

Сціскае сэрца мне ўначы адна турбота:
«А ці пачуе сябраў голас дом?!»
Як холадна і цёмна за вакном!
А ў доме валадарыць адзінота...

## Палыновая горыч

*Туюг*

Там, за рэчкаю, маленькая ёсць вёсачка і горка.
Там жыву здаўна я... А ў душы так вусцішна
і горка,
Нібы палыном я атруціўся. Ну а побач
На вяселлі на вясковым гармідар і крыкі
«Горько!»...

## Шлях у пекла

*Тэрцына*

Вядзе нас шлях жыццёвы ў невымоўнасць,
І нам з яго нікуды не звярнуць.
Суправаджаюць нас бязлікасць, безгустоўнасць,

Бязлітаснасць і сэрцаў каламуць.
І мы ідзём удалеч — ўсюды ціха,
Ў бязвер'я багне можна патануць...

І ў вір свой цягне душы нашы ліха.
Крычым мы, але нас ніхто не чуе,
Дарэмныя малітвы старца-мніха...

І гледзячы на нас, ўначы анёл смуткуе...

## Твая душа

*Фард*

У мірны час душа твая хай будзе, бы каралі,
Прыгожая, а ў час вайны — як востры меч
са сталі...

## Роспач

*Хоку*

Расстання роспач
Мяне працінае наскрозь.
Ноч адзіноты.

## Хлусня давядзе нас да плахі…

*Ямбы*

Хлусня авалодала нашымі душамі
І ў сэрца пусціла нам джала
(Яно небяспечней кінжала!).
Падчас дакараем сябе, але змушаны

Хлусіць штогадзінна, штодзённа,
Хлусіць, каб зрабіць паспяховай кар'еру,
Усюды і ўсім — і начальніку-зверу,
І родным, калегам. Будзённай

Ўжо стала хлусня, што ліецца з экранаў
Бясконца і нудна, нібы вадаспад...
Альбо як жахлівы смяротны снарад,
Руйнуе Хлусня вокамгненна паляну

Дабра і прыстойнасці, і вось тады
Бяжым мы адтуль у адчаі і страху,
Бяжым — і трапляем урэшце на плаху,
Дзе вее пранізлівы вецер бяды...

На пласе усе мы стаім і не знаем,
Чакае нас што — смерць пакутная ці
Збаўленне (у тым або ў гэтым жыцці?!).
А покуль стаім — лёсу вырак чакаем...

Стаім мы — нягеглыя дзеці Хлусні —
Двурушнай, нахабнай багачкі ў рызмане.
Яна нам скалечыла душы, а мы
Нічога зрабіць з ёй не ў стане...

# Кропелькі
## *Паэтычныя афарызмы і мініяцюры*





Хоць сумна наўкол,
але ў сэрцы маім
радасці скерца гучыць...



А Месяц,
каб пазбавіцца згрызот,
пусціўся з зоркамі
ў вясёлы карагод...



Халодны дом.
Халодная зямля.
І тваё сэрца — халаднейшае за іх...



Як невыносна горача пяску на беразе марскім
ў такую спёку!
Смялей жа, хвалі,
ўперад, на пясок!
І будзе ён удзячны вам шчэ доўга
за спаталенне смагі й прахалоду...



Рака маўчыць заўжды —
наяве, ў сваіх снах.
Чаму маўчыць?
Таму, відаць,
што голас
свой крышталёвы
дзесь пакінула ў гарах...



Чуеш,
птушкі не спяваюць —
птушкі плачуць ад бяссілля,
таму што ніхто з іх не можа
нікому пра боль расказаць...



Хачу, каб балонік маіх пакутаў хутчэй лопнуў або проста ўзляцеў і знік у бяскрайнім небе...



Землятрус, землятрус...

Але ж як не хапае нам сёння «душатрусу» — які б страс з людскіх душаў усю нянавісць, хлусню, подласць!



Старэнькі вецер перад дрэвам
здымае капялюш
і кажа дрэву:
«Я б калісьці зваліў цябе,
але
цяпер ты моцнае,
а я ўжо
зусім-зусім не дуж...»



...А у людзей было б нашмат
больш светлых дум,
калі б хто-небудзь
(хоць на некалькі дзянёчкаў!)
змог адключыць наш паўсядзённы тлум...



Паўсюль у паветры разлітая стома...
Паўсюдна, паўсюдна яна...
І нават —
зірні! —
ўжо стамілася лётаць
крылатая ветру душа...



— Хацеў ты дзіва дзіўнае убачыць?
Ну дык што ж —
глядзі,
з якім імпэтам і як смела
да нас пад парасонам крочыць... дождж.



Ручай свой замарудзіў бег, здзіўлёны прыгажосцю яркай кветкі...



Мора — лячэбны кампрэс на хворай спіне зямлі...



А сэрца мора
тухкае так цяжка

у поўнай цемры —
там,
на самым дне...



Паэзія —
разумнага вар'ята спеў,
які ніхто амаль
не чуе на зямлі...



Месяц маркоціцца ў небе — сябра не здолеў знайсці...



О, сонца!
Можаш растапіць ты
льды і снягі на ўсёй зямлі.
Ды вось — о, дзіва! —
не змагло ты
лёд растапіць адной душы,
маёй зняверанай душы...



Абрынулася ў мора
гара гора.

І з тых часоў
толькі яе вяршыня
ўзнімаецца над сцішанай вадой...



Ах, як жа цяжка засынаць на мулкім ложку рэўнасці...



Як матылёк, наіўны чалавек трапляе ў полымя цынічнага падману...



Бяда...
Яна, бы птушка фенікс,
Ўваскрасае
Нават тады,
Калі пасля спалення
Яна пературараеца у тло...



А здрада выбярэ
У сябры таго,
на кім заўважыць
маладушнасці таўро...



Хто ўвойдзе
ў Храм Нябеснай чысціні,
той зразумее там
усю нікчэмнасць
свайго жыцця былога на Зямлі...



Сёння
заручыны двух валацуг —
ветру і хмары.
А дзеткі народзяцца ў гэтых бацькоў,
то іх назавуць ветра-хмары.



Мая краіна — карабель,
што тоне ў акіяне страху.



Грахі нашы — лавіна, што сыходзіць з высокай гары.

Ці здолее хто ўратавацца?

Наўрад ці, наўрад ці, наўрад...



Рэўнасць — каса,
што бязлітасна скошвае
мілосці  траву і  кветкі кахання...



Мажліва, дождж — васал нябёсаў,
бо яны
загадваюць,
калі дажджу ісці...



Тугой закратавана маё сэрца,
і, відаць,
шчэ доўга тыя краты паламаць
ніхто не зможа —
хіба толькі сам...



Напіўся з крыначкі кахання я вады —
хапіла той вады мне на гады...



А я спадзяюся, чакаю і веру,
што ў сэрцы тваім

(насцярожаным сэрцы!)
калісьці распусціцца кветка даверу...



Адчаю крык вырваўся
птушкай з вакна
і знік
у дрыготкім паветры...



Паэзія —
Алень ў чароўным лесе,
А не-паэзія —
Ў пустэльні скарпіён...



Маланка бліскае і бліскае —
Не ведае спачыну...
О, бессардэчніца!
Навошта так балюча
Ты б’еш,
Нібы кінжалам,
Небу ў спіну...



Сумленне трэ ахоўваць,
Бо яно,
Пакінутае ўсімі
Без дагляду,
Упасці можа
І разбіцца,
Нібы шкло...



Матылём адлятаюць
У далеч гады.
Застаецца ў паветры
Пах скрухі нам ды
Прысмак болю
На сцішаных вуснах...



А сёння снег ідзе-ідзе-ідзе...
І бачна, што не думае спыняцца.
Няўжо ён —
О, вандроўнік малады! —
Шчэ не паспеў
З зямлёй
Нацалавацца...



Спужаў гром калісь небараку-цішыню. Яна схавалася у самым сэрцы лесу...



Ніколі
забыць не змагу тую дату,
калі граў нам вецер
кахання санату...



Слёз жальбы ў нашым свеце — акіян, а радасці слёз — плыткая рачулка...



Нянавісць — то бязлітасны драпежнік — з’ядае найперш чалавечую душу...



Рэўнасць падобная на кракадзіла — такая ж агрэсіўная і крыважэрная...



Адзін раз спусціўшыся ў пячору Страху, на ўсё жыццё набыў страх пячоры.



Дрэва гневу народнага хутка расце — і на бой з беззаконнем нас кліча...



Як страла, пушчаная вопытным лучнікам, трапляе ў дзясятачку, так і сапраўдны мастацкі твор павінен заўсёды трапляць у самае сэрца чытача, слухача, гледача.



Зорны дождж няспынны над зямлёю
Белай кветкай радасці расцвёў...
Там,
У нетрах усяленскага спакою,
Сховішча няспраўджаных ўсіх сноў...



Сумленне нярэдка смуткуе,
бо з ім
ўсё болей людзей у разводзе...



«Кахання скала,
А ці шмат у цябе ахвяраў?»
«Ці шмат іх?! Іх безліч!»



Тады было б сапраўдным Свята, каб болей было святасці ў душы...



Сусветнага трагікамічнага спектаклю
Вось пачынаецца
Апошняя ўжо дзея...
І чалавецтву
Застаецца
(Застаецца?)
Адна —
На Усявышняга надзея...



А дождж — мастак.
Свае малюнкі-павуцінкі
Стварае ён натхнёна
На пяску...



Акіянскія хвалі радасці...
Маўклівы бераг самоты...
Хвалі, хвалі, бяжыце хутчэй
на той бераг далёкі,
бо там
вас чакае самотнікаў процьма...

# Змест

**Ужо блізка цунамі кахання**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Дубянецкі** Эдуард Станіслававіч

# Душы маёй няскончаны палёт

*Кніга вершаў*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Андрэева*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 12.09.2011. Фармат 80х100 $^{1}/_{32}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. 6,67 арк. Ум. друк. 8,63 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 672.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.